Лічбы пасярэдзіне дзялянак ў гэтай схэме азначаюць featureнастайнасьць угнаеньняў, пры чым:

0 . 60 клг. $P_2O_5$ + 90 клг. $K_2O$ на 1 гкт.
1 . 60 „ $P_2O_5$ + 90 „ $K_2O$ + 25 клг. $CuSO_4$ на 1 гкт.
2 . 90 „ $P_2O_5$ + 90 „ $K_2O$ + 25 „ $CuSO_4$ „ 1 „
3 . 60 „ $P_2O_5$ + 90 „ $K_2O$ + 50 „ $CuSO_4$ „ 1 „

Пры досьледзе мелі на ўвазе даць ясны адказ на наступныя пытаньні:

1) як рэагуюць расьліны на дабаўленьне да нармальнага ўгнаеньня 25 клг. і 50 клг, $CuSO_4$.

2) ці не патрабуецца ўзмацненьня дозы $P_2O_5$.

Медзяны купарос таўчэцца і ўносіцца з пяском за некалькі дзён да пасеву.

Досьлед праводзіўся ў 6 паўторах і аднолькавыя дзялянкі былі, як відаць з схэмы, раўнамерна раскіданымі па вучастку. Высяваліся на дзялянках паласамі ад аднае бакавое канавы да другое: ячмень, авёс, гарчыца, бульба—цімафеяўка з канюшынаю. Было высеяна па 3 паласы кожнае расьліны.

Пасеў усіх культур 28-V, збор па меры пасьпеваньня, плошчы вучотных дзялянак раўняліся 6,24 і 7,24 кв. м.

Спынімся спачатку на выніку падліку ўраджаю:

Ячмень даў наступны ўраджай:

| Угнаеньне | Ураджай збожжа з 6,25 кв. мэтраў у клгр. | Сярэдні ўраджай збожжа ў клг. | Ураджай саломы і мякіны з 6,24 кв. мэтраў у клгр. | Сярэдні ўраджай саломы і мякіны ў клг. |
|---|---|---|---|---|
| 1) P+K . . . . | 0,450; 0,975; 1,495; 1,490; 1.050; 0,875 | 1,056 | 2,250; 1,645; 1,885; 2,110; 1,625; 2,055 | 1,928 |
| 2) P+K+25 клгр. $CuSO_4$ . . . | 2,005; 1,780; 1,400; 1,805; 1,620; 1,665 | 1,713 | 2,495; 2,090; 1,810; 1,895; 1,830; 2,195 | 2,053 |
| 3) P+K+50 клгр. $CuSO_4$ . . . | 1,635; 1,940; 1,485 1,735; 1,665; 1,675 | 1,689 | 1,995; 2,400; 1,725 1,925; 1,865; 2,005 | 1,986 |
| Тое-ж што № 2 +30 клг. $P_2O_5$ . | 2,125; 2,120; 1,648 1,515; 1,560; 1,595 | 1,777 | 2,494; 2,410; 1,922 1,995; 1,940; 2,385 | 2,158 |

Авёс даў наступны ўраджай з вучот. дзялянкі ў 6,24 кв. мэтраў у кілёгр.:

| Угнаеньне | Зярня | У сярэднім | Саломы і мякіны | У сярэднім |
|---|---|---|---|---|
| 1) P+K . . . . | 0,530; 0,850; 0,965; 1,035; 0,420; 0,620. | 0,737 | 2,200; 1,990; 2,385; 2,345; 1,980; 1,920. | 2,137 |
| 2) P+K+25 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 1,455; 1,440; 1,330; 1,370; 1,140; 1,275. | 1,335 | 2,815; 3,025; 2,525; 2,835; 2,640; 2,605. | 2,758 |
| 3) P+K+50 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 1,320; 1,620; 1,175; 1,190; 1,315; 1,255. | 1,312 | 2,480; 3,240; 2,320; 2,320; 2,615; 2,795. | 2,628 |
| 4) Тое-ж, што № 2 +30 клг. $P_2O_5$ . | 1,395; 1,500; 1,355; 1,355; 1,120; 1,215. | 1,323 | 3,330; 3,390; 3,285; 2,790; 2,480; 3,515. | 3,133 |

Гарчыца дала з вучотных дзялянак у 7,24 кв. м. у клг.

| Угнаеньне | Зярня | У сярэднім | Саломы і мякіны | У сярэднім |
|---|---|---|---|---|
| 1) P+K . . . . | 0,800; 0,417; 0,312; 0,540; 0,335; 0,386. | 0,465 | 2,490; 1,333; 1,173; 1,510; 1,615; 1,519. | 1,607 |
| 2) P+K+25 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 0,785; 0,420; 0,755; 0,870; 0,520; 0,450. | 0,633 | 2,195; 2,470; 1,040; 2,335; 2,135; 1,855. | 2,005 |
| 3) P+K+50 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 0,585; 1,055; 0,472; 0,730; 0,675; 0,655 | 0,695 | 1,775; 2,650; 1,323; 2,190; 2,500; 1,830 | 2,045 |
| 4) Тое-ж, што № 2 +30 клг. $P_2O_5$ . | 0,765; 0,875; 0,865; 0,400; 0,245; 0,670 | 0,637 | 2,300; 2,295; 2,630; 1,550; 1,450; 3,460 | 2,281 |

Бабы далі з вучотных дзялянак у 7,24 кв. м. у клг.

| Угнаеньне | Зярня | У сярэднім | Саломы | У сярэднім |
|---|---|---|---|---|
| 1) P+K . . . . | 1,000; 1,295; 1,360; 1,410 і 1,165. | 1,246 | 1,240; 1,650; 1,290; 1,430 і 1,845. | 1,491 |
| 2) P+K+25 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 1,680; 1,300; 1,350; 1,630 і 1,280. | 1,448 | 1,230; 2,050; 1,120; 1,600; 2,020; 1,570. | 1,598 |
| 3) P+K+50 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 1,570; 1,780; 1,780; 1,835; 1,420; 1,600. | 1,664 | 1,120; 1,130; 1,120; 1,360; 1,550; 1,600. | 1,355 |
| 4) Тое-ж што № 2 +30 кл. $P_2O_5$ . | 1,800; 1,765; 1,365; 1,800; 1,480; 1,645. | 1,643 | 1,320; 1,395; 1,365; 1,430; 1,840; 2,035. | 1,564 |

Бульба „Сілезія“ дала з дзялянкі ў 6,4 кв. м. наступныя ўраджаі клубняў у клгр.

| Угнаеньне | Клубняў | У сярэднім |
|---|---|---|
| 1) P+K . . . . | 24,6; 19,7; 17,4 20,5; 22,6; 26,9 | 22,0 |
| 2) P+K+25 кілёгр. $CuSO_4$. . . | 19,6; 18,4; 18,6 20,4; 24,8; 23,8 | 20,9 |
| 3) P+K+50 кілёгр. $CuSO_4$. . . . | 16,2; 21,9; 20,0 18,4; 21,3; 25,0 | 20.5 |
| 4) Тое-ж, што № 2 +30 кл. $P_2O_5$ . | 21,8; 19,1; 21,2 20,0; 22,1; 23,7 | 21,3 |

Эфэктыўнасьць унясеньня $CuSO_4$ пад розныя культуры прадстаўляецца ў наступнай табліцы:

| ПАСЕВЫ | Бяз $CuSO_4$ | | 25 клг. $CuSO_4$ на 1 га | | 50 клг. $CuSO_4$ на 1 га | | ± ад 25 клг. $CuSO_4$ | | ± ад 50 клг. $CuSO_4$ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярня | Саломы і мякіны | Зярня | Саломы і мякіны | Зярня | Саломы і мякіны | Зярня | Саломы і мякіны | Зярня | Саломы і мякіны |
| | З вучотн. дзялянкі ў клг. | | З вучотн. дзялянкі ў клг. | | З вучотн. дзялянкі ў клг. | | клг. / % | клг. / % | клг. / % | клг. / % |
| Ячмень . . . | 1,06 | 1,93 | 1,71 | 2,05 | 1,69 | 1,97 | +0,65 / +62 | +0,12 / +5 | +0.63 / +50 | +0,04 / +2 |
| Авёс . . . . | 0,74 | 2,14 | 1,34 | 2,76 | 1,31 | 2.63 | +0,60 / +81 | +0,62 / +29 | +0,57 / +77 | +0,49 / +23 |
| Гарчыца . . . | 0,47 | 1,61 | 0,63 | 2,01 | 0,70 | 2,05 | +0,16 / +34 | +0,40 / +25 | +0,23 / +49 | +0,44 / +27 |
| Бабы . . . . | 1,25 | 1,49 | 1,45 | 1,60 | 1,66 | 1,36 | +0,20 / +16 | +0,11 / +7 | +0,41 / +32 | −0,13 / −9 |
| Бульба (клубні) . . | 22,0 | — | 20,9 | — | 20,5 | — | −1,1 / −5 | — | −1,5 / −7 | — |

На падставе палявога досьледу магчыма зрабіць наступныя вывады:

1) ужываньне $CuSO_4$ бязумоўна аказалася карысным перш за ўсё для ячменю (+60%) і аўсу (+80%), у меншай меры, але ўсё-ж такі прыкметнае павышэньне ўраджаю зярня далі гарчыца (34%) і боб (16%). На бульбу $CuSO_4$ не зрабіў ніякага ўплыву;

2) 25 клг. $CuSO_4$, унесенага незадоўга да пасеву, відаць, ёсьць выстарчальная доза большасьці культур, хаця боб даў самую большую прыбаўку пры ўнясеньні 50 клг.;

3) унесеная доза фосфарнай кісьліны (60 клг.) аказалася даволі для ўсіх культур, апрача бобу.

**М. В. Дакукін.**

# Палявыя і вэгетацыйныя досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі Менскай Балотнай Станцыі ў 1927 г.

## Палявыя досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі ў 1927 г.

Зробім спачатку некалькі агульных заўваг аб пастаноўцы палявых досьледаў з ўгнаеньнямі ў 1927 годзе.

Досьледы праводзіліся на Камароўскім балоце пад гор. Менскам, дзе распаложана Балотная Гаспадарка Станцыі, на двух вучастках, азначаных на гаспадарчым пляне балота: 1) Е, і 2) № 14.

Абодва вучасткі добра асушаны дрэнажам, пры адлегласьці паміж дрэнамі 20 м. і пры глыбіні закладкі ў 1,0—1,2 м. Глыбіня торпу ў тых частках, дзе распаложаны дасьледчыя дзялянкі каля 1,5 м. Ніжняя палавіна тарпянога залежу прадстаўлена трысьцёвым торпам і верхняя гіпнум-асокавым з дадаткам бярозы.

Ступень разлажэньня торпу ў ворыўным гарызонту сярэдняя. Валавы аналіз торпу ў 1924 годзе даў наступныя лічбы: 7,87—9,63% залы; 2,99—4,24% $CaO$; 0,14—0,27% $P_2O_5$; 0,37% $K_2O$.

На вучастку Е быў распаложан досьлед з бульбаю і з канюшынна-цімафеячнаю мешанінай пасеву 1925 і 1926 году, на вучастку № 14 распаложан досьлед з травамі веснавога пасеву 1927 году.

### Досьлед з бульбаю.

Гаспадарчая гісторыя вуч. Е, на якім быў заложан досьлед наступная. Вучастак быў асушан трубчатым дрэнажам і ўзоран упяршыню ў 1923 годзе. Пасьля на ім сеялася наступнае:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1924 | г. | авёс | па угнаеньню | 60 кл. $P_2O_5$ у форме суп. ф. і 90 кл. $K_2O$ ў ф. 30% кал. солі |
| 1925 | „ | „ | „ | „ „ „ „ „ „ „ „ „ „ „ |
| 1926 | „ | віка з аўсом | „ | „ „ „ „ „ „ „ „ „ „ „ |

Апрацоўка пад бульбу была наступная: 25/V зямля была ўзорана на глыбіню 3 вяршкоў, 26/V дыскаваньне, 28/V баранаваньне бараною „Зіг-Заг", 30/V і 1/VI разьбіты дзялянкі і 1—4/IV унесены ўгнаеньні на дзялянкі,—8/IV—10/IV пасаджана бульба, 21/IV увесь вучастак быў прыкатан цяжкім балотным катком у 1 сьлед. Пасадка рабілася пад кол на глыбіню 1—2 вяршкоў па вяроўцы пры адлегласьці паміж радамі 0,5 м. і ў радах 0,33 см.

Догляд бульбянога полю заключаўся ў наступным: баранаваньне і акучваньне 4—6/VII. Палолі 11—14/VII. Палолі і акучвалі 22-23/VII, акучваньне 29-30/VII, беглая праполка 8/VIII. Акучваньне прышлося паўтарыць тры разы, дзеля таго, што заўважвалася моцнае разьвіцьцё зельля, з якім прышлося весьці ўпартую барацьбу. Найбольш багаты рост выявілі наступныя сарнякі: Sonchus arvensis, Polygonum bistorta, Pol. tomentasum, P. aviculare, Stellaria media.

Не так багата, але ўсё-ж такі ў значнай колькасьці выраслалі: Centaurea cyanus, Desshampsia caespitosa, Rumex acetosella, Potentilla torn. Potentilla an., Capsella bursa pastori, Ranunculus acer, R. repens, Agrostis polustris, Poa prateusis, Urtica Dioica.

Праведзены падлік вагі зялёнае масы сарніны паказвае, што яго рост стаіць у простай залежнасьці ад дадзеных угнаеньняў:

*Табліца 1.*

| Угнаеньне | Вага зялёнае масы зельля на 1 гект. у кілёгр. |
|---|---|
| O | 700 |
| P | 2,500 |
| PK | 3,400 |
| KN | 5,600 |
| PKN | 5,800 |

Для пасадкі ўжываўся мясцовы рынкавы гатунак тыпу „Сілезія", які восем гадоў рэпродуцыраваўся на балотнай глебе на гаспадарцы Балотнае Станцыі.

Грыбных хвораcьцяў на бульбе ня было заўважана. Лісьцё мела нормальны здаровы выгляд.

1 верасьня здарыўся начны замаразак.

Агляд дзялянак на другі дзень паказаў даволі цікавае зьявішча. Аказалася што мароз дужа папсаваў, амаль на 100%, дзелянкі з нізкарослаю і слаба разьвітаю батвою, менавіта, нулявыя і тыя, што атрымалі ўгнаеньне: P або PN.

На добра разьвітай бацьве правільна ўгнояных дасьледчых дзялянак і ў гасп. пасеве пацярпелі толькі лісточкі верхняга ярусу. Травам, капусьце і іншым культурам гэты замаразак не пашкодзіў вусім.

Вялічыня дзялянак была па 100 кв. м. Дзеля таго, каб адхіліць магчымую памылку ад занясеньня ўгнаеньня суседніх дзялянак, а таксама ўплыву розных па даўжыні дзялянак у заценяньні суседнімі дзялянкамі з абодвых бакоў выкідалася па аднаму радку і ў папярэчным напрамку з абодвух бакоў выкідалася па 0,5 мэтру. Такім чынам кантрольныя дзялянкі раўняліся 60 кв. м.

Пры падліку выдзялялася на вока дробная бульба, як гэта робіцца пры гаспадарскай уборцы бульбы і фракцыі важыліся паасобку.

Пры падліку лічылі выпаўшыя кусты, па колькасьці якіх вызначалі памер выключак і канчатковую вялічыню кантрольных дзялянак, якая і прыведзена ў табліцах.

У дзень уборкі браліся пробы па 25 клгр., якія складаліся з вялікае і дробнае бульбы прапарцыянальна ўдзелу гэтых фракцыяў у ураджаі, для вызначэньня крухмалю.

Бульба, якая ішла для вызначэньня крухмалістасьці, пераціралася і падсушвалася ў паветры, пасьля чаго рабілася вызначэньне крухмалю. На кожную дзялянку вызначэньне рабілася часьцей за ўсё двойчы.

## Вынік досьледу па сэрыі Б. (Розныя віды калійных угнаеньняў па разнастайных фонах).

Вызначым спачатку сярэднюю ўраджайнасьць няўгнойваных дзялянак у гэтай сэрыі. Іхняя ураджайнасьць у пудох на 1 дзес. наступная: 958, 675, 818, 742, 694, 943, 809, 871, 853, 797, 674, 886, або ў сярэднім 810 пуд.

Параўноўваючы гэтае сярэдняе з парамі нумарных дзялянак лёгка убачыць, што:

1) Адзін Томасаўшлак або ён у злучэньні з сялітраю не даюць павялічэньня ураджаю.

2) Параўнаньне фосфарыту з Томасовым шлакам дае наступныя вынікі: ураджаі дзялянак, угнояных фосфарытавую мукою ў комбінацыі з калі, а таксама з калі + сялітрай: 1333, 916, 1062, 1369, 933, 819, 1021, 1022, 666, 1046, 893, 1311, або у сярэднім 1033.

Ураджайнасьць дзялянак, угнояных Томасавым шлакам у комбінацыі з калі, а таксама з калі + сялітрай: 1979, 1106, 1333, 1011, 1145, 1127, 1125, 1150, 1224, 1751, 1299, 1141 або ў сярэднім 1283.

Такім чынам, фон фасфарытавае мукі дае на 250 пудоў на гектар меней у параўнаньні з фонам з Томасавага шлаку.

Дзеля гэтага розьніца ў відах калійных угнаеньняў пры фасфарытавым фоне выяўляецца ня зусім ясна. Тут неабходна куды больш (да 6) паўтораў, каб атрымаць надзейныя вынікі. Пры фоне з аднаго Томасавага шлаку без сялітры бязумоўна перавага на баку $K_2SO_4$ (1437 п.), на другім месцы стаіць сільвініт (1220 п.) і на трэцьцім KCL (1137 п.).

Пры фоне з Томасавага шлаку + сялітра першае месца займае KCL, другое $K_2SO_4$ і трэцяе сільвініт. Супярэчлівыя вынікі атрыманы дзякуючы надта вялікаму разыходжаньню ў паралельных дзялянках. Відаць для параўнальнае ацэнкі калійных угнаеньняў неабходна спрашчэньне ўсяе схемы і ўвядзеньне большага ліку паўторанасьці.

3) Цікава прасачыць, які уплыў робяць віды калійных угнаеньняў, а таксама разнастайныя фоны на крухмалістасьць бульбы.

Пры суміраваньні ўсіх вызначэньняў крухмалю па ўсім фонам атрымаем наступную табліцу:

*Табліца 2.*

| Віды К. | Прысутнасьць крухмалю ў проц. | Сярэдні проц. |
|---|---|---|
| KCL . . | 14,7; 13,8; 12,6; 13,2; | 13,6 |
| $K_2SO_4$ . . | 15,1; 15,8; 13,2; 13,9; | 14,5 |
| Сільвініт . | 13,0; 13,5; 12,1; 12,4; | 12,8 |

Такім чынам, замен пры бульбяной культуры на балоце калійных солей, якія маюць хлёр, сульфатам калія магло-б палепшыць якасьць бульбы, павялічыць прыбытковасьць гэтае культуры, тым болей, што і агульная маса клубняў па $K_2SO_4$ таксама атрымліваецца большая, чым па другіх відах калійных угнаеньняў.

Уплыў тых або іншых фонаў угнаеньняў відзен з наступнае табліцы:

*Табліца 3.*

| Угнаеньні | Проц. крухмалю з кожнае пары дзялянак | Сярэдні проц. |
|---|---|---|
| Без угнаеньняў . . . | 13,9; 13,1; 13,4; 14,0; 14,0; 13,3 | 13,6 |
| Томасаў шляк . . . | 14,5 | 14,5 |
| Фасфарытная мука . . | 14,5 | 14,5 |
| Том. шл. + K + N . . | 14,7; 15,1; 13,0 | 14,0 |

*Табліца 3 (працяг).*

| Угнаеньні | Проц. крахмалю з кожнае пары дзялянак | Сярэдні проц. |
|---|---|---|
| Том. шл. + K бяз N. . | 13,8; 15,8; 13,5 | 14,4 |
| Фасф. мука + K + N . | 12,6; 13,2; 12,1 | 12,6 |
| „ „ + K бяз N. | 13,2; 13,9; 12,4; 1 | 13,2 |
| Том. шл. + N . . . | 14,3 | 14,3 |
| Фасф. мука + N . . . | 13,6 | 13,6 |

Ужываньне адных фасфатаў бяз $K_2O$ павышае крухмалістасьць амаль на цэлы процант.

Дабаўленьне да якіх бы там ні была ўгнаеньняў сялітры зьменшыла проц. крухмалю ў сярэднім на 0,5%, акалічнасьць, з якою ў далейшым прыдзецца сур'ёзна лічыцца.

## Вынікі досьледу па сэрыі В. (Віды фосфарна-кіслых угнаеньняў).

Выведзем перш за ўсё сярэднюю ўраджайнасьць няўгнойваных парцэллаў гэтае сэрыі. Іхнія ўраджаі ў пудох на 1 дзес. складаюць: 837, 789, 757, 916, 681, 958, 882, 992, 679, 666, 710. 782, 510, 758, 626, 1044; у сярэднім—787.

Разглядваючы табліцы можна зрабіць наступныя вывады:

1) Ужываньне аднаго калійнага ўгнаеньня павялічыла ўраджай да 892 п., а ўгнаеньне кал. сольлю з сялітрай да 1033 п., калійная соль з серкавакіслым амоніем паказала менш выразнае дзеяньне (829 п.).

2) На гэтай сэрыі выгадна высьвятліць ролю сялітры і серкавакісл. аммонія, бо маюцца даволі доўгія рады дзялянак з сялітраю і серкавак. аммоні і такія самыя рады без ужываньня азоцістых угнаеньняў, зусім схожыя з першымі радамі ва ўсім іншым. Дзялянкі з сялітраю маюць наступныя ўраджаі ў п. на 1 дзес. 1071, 1197, 941, 1091, 878, 946, 857, 941, 806, 957, 1039, 800 або ў сярэднім 960 п. Аналёгічны рад бяз азоцістых угнаеньняў: 1039, 1052, 1049, 1089, 710, 996, 1266, 971, 933, 854, 996, 967, 853, 717, 977, 894, 753, 982, 756, 999, 689, 802, 536, 1119 або ў сярэднім 917.

Дзелянкі з серкавакіслым аммоніем маюць ураджаі: 847, 752, 751, 839, 916, 610, 953, 841, 857, 715, 1053, 839 або ў сярэднім 831.

З прыведзеных лічбаў магчыма, відаць, заключыць, што ўнясеньне 2 п. на 1 дзес. N у форме сялітры павялічвае ураджай бульбы на вельмі нязначную вялічыню, так што

рантабэльнасьць гэтае меры падлягае сумненьню. Унясеньне-ж серкавакіслага аммонія выразна прыводзіць да памяншэньня ўраджаю. Тут мы маем супярэчнасьці з вывадамі з вэгэтацыйнага досьледу, дзе атрымана вельмі спрыяючае дзеяньне азоцістых угнаеньняў. Прычына гэтага ў тым, што ў пасудзінах быў заложан торп, які ня быў у культуры, а ў палявым досьледзе маем торп, які апрацоўваўся з 1924 г.

3) Дзеля параўнаньня дзеяньня розных відаў фосфарна-кіслых угнаеньняў згрупуем цыфравы матар'ял па відам фосфарна-кіслых угнаеньняў, выключаючы дзялянкі, якія атрымалі серкавакіслы аммоні з прычыны адмоўнага дзеяньня гэтага апошняга. Тады атрымаем наступную табліцу:

*Табліца 4.*

| Від фасфату | Ураджаі кантрольных дзялянак у пудох з аднае дзес | Сярэдняе |
|---|---|---|
| Супэрфасфат . . . | 1071, 1197, 1039, 1052, 858, 717 | 989 |
| Падв. супэрфасфат . | 941, 1091, 1049, 1089, 977, 894 | 1007 |
| Прэцыпітат . . . . | 878, 946, 710, 996, 753, 982 | 877 |
| Томас-шлак . . . . | 857, 941, 1266, 971, 756, 999 | 965 |
| Касьцяная мука . . | 806, 957, 933, 854, 689, 802 | 840 |
| Фасфарытная мука . | 1039, 800, 996, 967, 536, 1119 | 909 |

Такім чынам, як відаць, на першае месца з фасфарна-кіслых угнаеньняў трэба паставіць: Супэрфасфат, подвойны супэрфасфат і Томасаў-шлак, тады як іншыя ўгнаеньні, асабліва касьцяная мука выразна стаяць на ругім месцы ў якасьці ўгнаеньня для бульбы на нашай балотнай глебе.

Паглядзімо, нарэшце, ці робіць уплыў match рознастайнасьць у фосфатах на крухмалістасьць бульбы і ўраджай крухмалю.

*Табліца 5.*

| Від фосфату | Проц. крухмалю | Сярэдняе |
|---|---|---|
| Супэрфосфат . . . | 12,7; 13,3; 13,4; 13,6 | 13,2 |
| Падв. супэрфосфат . | 12,7; 12,5; 13,4; 13,2 | 12,9 |
| Прэцыпітат . . . . | 12,6; 12,1; 11,3; 11,7 | 11,9 |
| Томас-шлак . . . . | 12.9; 12,0; 12,9; 12,8 | 12,5 |
| Касьцяная мука . | 12,0; 11,7; 11,9; 12,7 | 12,1 |
| Фосфарытавая мука . | 12,1; 13,2; 12,5; 12,8 | 12,6 |

## Вынікі досьледу па сэрыі Г. (дазіроўка сялітры і калійнае солі).

Няўгнойваныя дзялянкі гэтае сэрыі далі наступны ўраджай клубняў у п. на 1 дзес.: 789, 451, 534, 639, 606, 802, 556, 738, 609, 579, 635, 602, 562, 729, 522, 860, а ў сярэднім 638. Гэты кавалак відаць адрозьніваецца меньшым пладародствам у параўнаньні з тымі, на якіх былі распалажаны сэрыі Б і В.

1) Ужываньне аднаго Томасавага шлаку не павялічыла ураджаю: 481, 866, 534, 699, а ў сярэднім 645.

2) Ужываньне аднаго калі у форме 30% калійнае солі ў розных дозах дало наступны вынік:

*Табліца 6.*

| Дозы ў пудох на 1 дзес. | Ураджай клубняў з кантрольнае дзялянкі ў пуд. на дзесяціну | Сярэдняе |
|---|---|---|
| 3 п. $K_2O$ . . . . . | 635, 711, 683, 539 | 642 |
| 6 „ $K_2O$ . . . . . | 666, 607, 703, 872 | 712 |
| 9 „ $K_2O$ . . . . . | 805, 851, 654, 699 | 752 |

Выходзіць што ў гэтым досьледзе ўжываньне аднае калійнае солі у колькасьці 3 п. $K_2O$ на 1 дзесяціну не павялічыла ўраджаю ў параўнаньні з няўгнойванымі дзялянкамі, але ўзмацненьне дозаў выклікала прыкметнае павялічэньне ўраджаю, менавіта, унясеньне дадаткова 6 п. (або 20 п. 30% кал. солі) выклікала павялічэньне ўраджаю на 100 п. Але рэнтабэльнасьці ў такім ужываньні калійнае солі няма, з тае прычыны, што 20 п. 30% калійнае солі і 100 п. бульбы па свайму кошту прыблізна аднолькавы. Рэнтабэльным ужываньне мінэральных угнаеньняў мы будзем лічыць у тых выпадках, калі ад унясеньня ўгнаеньня атрымліваецца павялічэньне ўраджаю, грашовая вартасьць якога ня менш як у два разы больш за вартасьць унесенага угнаеньня.

1) Для высьвятленьня ролі сялітры і значэньня яе дазіроўкі мы складзём наступную табліцу:

*Табліца 7.*

| | Ураджай клубняў з кантрольных дзялянак у пудох на дзесяціну | Сярэдняе |
|---|---|---|
| O N у форме $NaNO_3+K+P$ | 815, 720, 874, 817, 732, 749, 861, 666, 871, 717, 882, 933, . . . | 803 |
| 2 п. „ „ | 1011, 759, 790, 616, 1042, 842 682, 1019, 984, 819, 854, 871 . . | 857 |
| 4 п. „ „ | 827, 768, 683, 1107, 719, 854, 786, 920, 790, 722, 769, . . . | 813 |
| 6 п. „ „ | 770, 774, 599, 679, 670, 692, 853, 588, 789, 717, 903, 666, . . | 723 |

Такім чынам салетраваньне ў колькасьці 2 п. на 1 дзес. павялічвае ураджай бульбы; павялічэньне дозаў сялітры выклікае дэпрэсію ўраджаю.

Ужываньне сялітры не рантуецца.

4) Параўнаем, нарэшце, дзялянкі, угноеныя рознымі колькасьцямі калі, ня прыймаючы пад увагу і ня ўлічваючы дзялянкі ўгноеныя толькі адным калі і дзялянкі, якія атрымалі 6 п. N на 1 дзес., тае прычыны, што гэтыя дзьве сэрыі ўгноены яўна няправільна і не даюць нормальнага малюнку ўплыву $K_2O$:

*Табліца 8.*

| Дозы $K_2O$ ў п. на 1 дзес. | Ураджай клубняў кантрольных дзялянак у пудох на 1 дзесяціну | Сярэдние |
|---|---|---|
| 3 п. $K_2O$ | 1011, 7Г9, 790, 616, 827, 768, 633, 732, 749, 861, 666 . . . . . . | 765 |
| 6 п. $K_2O$ | 1042, 842, 682, 1019, 1107, 719, 854, 786, 732, 749, 861, 666, . . . | 883 |
| 9 п. $K_2O$ | 984, 819, 8549, 871, 920, 790, 722, 769, 871, 717, 882, 933, . . . . | 844 |

Такім чынам, у дадзеных умовах павялічэньне дозы $K_2O$ вышэй 6 пудоў не дало ніякіх вынікаў.

Уплыў дозаў $K_2O$ ў форме 30% солі на крухмалістасьць відзён з наступнае табліцы:

*Табліца 9.*

| Дозы $K_2O$ | Проц. крухмалю | Сярэдні проц. крухмалю |
|---|---|---|
| 0 | 12,6; 11,7; 12,3; 12,5 . . . . | 12,3 |
| 3 п. $K_2O$ | 12,8; 11,7; 11,5; 12,9; 12,5. . . . . | 12,3 |
| 6 п. „ | 12,1; 11,3; 11,7; 12,1; 11,2 . . | 11,7 |
| 9 п. „ | 11,7; 11,2; 11,1; 11,8; 11,8 . . . | 11,5 |

Павялічэньне дозаў $K_2O$ ў форме 30% солі памяньшае якасьць бульбы.

На падставе досьледаў аднаго году немагчыма зрабіць рашучага заключэньня па ўсім пастаўленым тэмам.

Некаторыя з вывучаемых фактараў даюць, апрача таго, ўплывы такога парадку, што яны могуць быць выражаны колькасна пры большым ліку паўтораў, чым было зроблена ў дадзеным досьледзе.

Тым ня меней, на падставе прыведзеных матар'ялаў атрымліваем некаторыя каштоўныя вывады і магчымасьць удасканаленьня пастаноўкі гэтых досьледаў надалей.

Азначым самыя галоўныя палажэньні і прадпалажэньні, якія вынікаюць з прыведзеных матар'ялаў.

1) З калійных угнаеньняў на першым месцы трэба паставіць безумоўна сульфат калія, дзеля таго, што ён дае і найбольшы ўраджай клубняў і найбольшую крухмалістасьць. У будучым пры працы з бульбаю на нізінным балоце досьледы з гэтым тукам прыдзецца паставіць больш дэталёва. Гэты вывад не зьяўляецца чым-небудзь новым, таму што па досьледах Брэм. Балотнае Станцыі сульфат калія таксама аказаўся лепшым угнаеньнем пад бульбу, а ў Голяндзкіх гаспадарках серкавакіслая калі-магнэзія знаходзіць шырокае ўжываньне для ўгнаеньня бульбы.

2) З фосфарна-кіслых угнаеньняў на першым месцы прыходзіцца паставіць супэрфосфат просты і падвойны, якія далі найбольшую масу клубняў і найбольшую крухмалістасьць. Затым па масе ўраджаю ідзе Томасаў-шлак. Звараче на сябе ўвагу параўнальна вялікі ўраджай ад фосфарытавае мукі. Трэба было-б, паўтарыўшы ў будучым гэтую схэму, дасьледаваць дазіроўку фосфарытвае мукі, як больш таннага ўгнаеньня.

3) Досьлед з дазіроўкаю калі ў форме 30 проц. кал. солі папаў на менш пладародны кавалак, менавіта, пахатны гарызонт быў тутака горш гуміфіцыраван і меў некаторую колькасьць сфагнавага моху. Дзеля гэтага, можа быць, ураджай тутака ня мог павялічвацца пры дабаўленьні дозы калі больш 6 п. $K_2O$ на дзесяціну. З гэтае прычыны досьлед патрэбна паўтарыць у больш спрыяючых глебавых умовах.

Прыкметнае памяньшэньне проц. крухмалю з павялічэньнем дозаў калійнае солі гаворыць аб тым, што з гэтым угнаеньнем трэба абыходзіцца асьцярожна, каб захаваць якасьць ураджаю і трэба было-б папрацаваць над ужываньнем пад бульбу на балоце серкава-кіслага калі замест 30 проц. кал. солі.

4) Па пытаньню аб ужываньні азоцістых угнаеньняў пад бульбу атрымаўся нечаканы вынік, што серкава-кіслы аммоні дзейнічае значна горш за чылійскую салітру, тады як у пасудзінах на авёс з вікаю атрымаўся дыямэтральна працілеглы вынік. Досьлед, відавочна, трэба паўтарыць і зрабіць з большым лікам паўтораў.

Што тычыцца дазіроўкі азоцістых угнаеньняў, дык, відаць, пад бульбу трэба дасьледаваць у далейшым унясеньне 1-2 п. азоту, таму што больш моцнае салетраваньне памяньшае ўраджай.

З вялікімі дозамі салетры на балоце прыходзіцца быць асьцярожнымі, таксама і таму, што ўжываньне салетры зьвязана з памяньшэньнем крухмалістасьці.

### Досьледы з травамі.

Былі закладзены ў трох сэрыях. Дзьве сэрыі на вучастку Е. і адна на вучастку № 14.

### Дасьледваньне відаў азоцістых угнаеньняў пад атаву цімафеяўкі з канюшынаю пасеву 1925 году на вуч. Е.

Якасьці торпу гэтага вучастку апісаны вышэй у главе аб досьледах з бульбаю.

Гісторыя вучастку такая: асушка трубчатым дрэнажам і ўзорваньне ў 1923 годзе. Інтэнсыўнасьць асушкі такая самая як і ў досьледзе з бульбаю.

У 1924 годзе авёс па ўгнаеньні 4 п. $P_2O$ ў форме супэрфосфату і 6 п. $K_2O$ ў ф. 30 проц. кал. солі; у 1925 г. быў пасеян авёс з падсевам канюшыны з цімафеяўкай на такім самым угнаеньні; у 1926 г. угнаеньне не давалася.

Азоцістыя ўгнаеньні дасьледваліся на двух фонах: 1) супэрфосфат + кал. соль і 2) томас-шлак + кал. соль. Фонавыя ўгнаеньні дадзены 20 траўня ў колькасьці: 5 п. $K_2O$ і 4 п. $P_2O_5$ па разьліку на 1 дзес. Азоцістыя ўгнаеньні даваліся пасьля першага ўкосу 15/VII з разьліку 3 п. N на 1 дзес.

Азоцістыя ўгнаеньні раскідваліся павярхоўна.

Было заўважана, што цыян-амід у невялікай ступені павыжыгаў атаву, але гэтая шкода хутка зараўнялася.

Уборка атавы была зроблена 31/VIII, калі расьліны былі ў поўным красаваньні.

На няўгнойваных дзялянках цімафеяўкі з канюшынай было мала, і яны былі заняты розным зельлем.

Наадварот, дзялянкі, угноеныя К + Р мелі нязначную колькасьць сарнякоў.

Велічыня дзялянак у гэтай сэрыі была 60 кв. м. (30 × 4).

Пры падліку важылася сырая маса з 20 кв. м. і бралася проба для прасушкі. На падставе вызначэньня колькасьці зьмест паветрана-сухога сена прынят у 25 проц. ад зялёнае масы.

Першы ўкос з усіх дзялянак гэтае сэрыі падлічваўся па кожнай дзялянцы паасобку, дзеля таго, каб скласьці ўяўленьне аб ступені аднароднасьці плошчы. З кожнае дзялянкі бралася па 3-4 плашчадкі вялічынёю па 0,25 кв. м. і сырая маса з кожнай з іх важылася асобна.

Велічыні першага ўкосу па сырой масе з 0,25 кв. мэтру ў гр. атрымаліся наступныя:

Няўгноеныя дзялянкі:

| | |
|---|---|
| I/9—158 | III/9—147 |
| II/9—205 | IV/9—202 |

*Табліца 10.*

Дзялянкі ўгноеныя Р—К

| №№ паўт. | №№ дзял. | Угнаеньне | Урадж. зял. масы з 0,25 кв. м. у гр. | Сярэдняе ад кожнага паўтору |
|---|---|---|---|---|
| I | 1 | Супэрфосф. + калі | 523 | |
| „ | 2 | „ „ | 545 | |
| „ | 3 | „ „ | 684 | |
| „ | 4 | „ „ | 506 | |
| „ | 5 | „ „ | 611 | |
| „ | 6 | „ „ | 588 | |
| „ | 7 | „ „ | 607 | |
| „ | 8 | „ „ | 612 | 597 |
| II | 1 | „ „ | 582 | |
| „ | 2 | „ „ | 580 | |
| „ | 3 | „ „ | 521 | |
| „ | 4 | „ „ | 593 | |
| „ | 5 | „ „ | 731 | |
| „ | 6 | „ „ | 645 | |
| „ | 7 | „ „ | 550 | |
| „ | 8 | „ „ | 581 | 603 |
| III | 1 | Томас-шлак + калі | 532 | |
| „ | 2 | „ „ | 454 | |
| „ | 3 | „ „ | 558 | |
| „ | 4 | „ „ | 551 | |
| „ | 5 | „ „ | 555 | |
| „ | 6 | „ „ | 413 | |
| „ | 7 | „ „ | 439 | |
| „ | 8 | „ „ | 446 | 494 |

*Табліца 10 (працяг).*

Дзялянкі ўгноеныя Р—К

| №№ паўт. | №№ дзел. | Угнаеньне | Урадж. зял. масы з 0,25 кв. м. у гр. | Сярэдняе ад кожнага паўтору |
|---|---|---|---|---|
| IV | 1 | Томас-шлак × калі | 499 | |
| „ | 2 | „ „ | 529 | |
| „ | 3 | „ „ | 512 | |
| „ | 4 | „ „ | 481 | |
| „ | 5 | „ „ | 455 | |
| „ | 6 | „ „ | 525 | |
| „ | 7 | „ „ | 461 | |
| „ | 8 | „ „ | 472 | 492 |

Такім чынам, з 0,25 кв. м. без угнаеньня атрымалі 177 гр., калі было дадзена 5 п. $K_2O$ і 4 п. $P_2O_5$ ў форме тамасавага-шлаку—493 гр. і пры замене тамасавага-шлаку супэрфосфатам—600 гр., прыймаючы укос няўгнойваных дзялянак за 100 маем, такім чынам:

О — 100

Томас-шлак+К — 278

Супэрфосфат+К — 345

Такім чынам, пры павярхоўным угнаеньні траў галоўнай ўвагі заслугоўвае супэрфосфат, прычына, відаць, тая, што ён лягчэй умываецца ў глебу дажджамі і $P_2O_5$ яго робіцца даступнай карэньням лугавых траў у больш кароткі тэрмін, чым $P_2O_5$ у Томас-шлаку.

Далей высьвятлім, ці захоўваецца перавага супэрфосфату перад тамасавым шлакам на атаве.

Няўгнойваныя дзялянкі мелі на 20 кв. м. наступны ўраджай атавы ў кілёграмах:

| | |
|---|---|
| I/9—9,00 | III/9—2,00 |
| II/9—2,75 | IV/9—1,72 |

А ў сярэднім 3,9 клгр. на 20 кв. м.

*Табліца 11.*

Ураджаі атавы прадстаўлены ў наступных лічбах:

| фон супэрфасфат+К. | | | | фон тамасаў-шлак+К. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №№ паўтор. | №№ дзял. | Ураджай з 20 кв. м. у кілёграмах | Сярэдні ўраджай з 1 сэрії | №№ паўтор. | №№ дзял. | Ураджай з 20 кв. м. у кілёграмах | Сярэдні ўраджай з 1 сэр. |
| I | 1 | 28,5 | | III | 1 | 14,5 | |
| " | 2 | 27,0 | | " | 2 | 10,5 | |
| " | 3 | 26,0 | | " | 3 | 10,5 | |
| " | 4 | 23,5 | | " | 4 | 12,7 | |
| " | 5 | 28,0 | | " | 5 | 12,7 | |
| " | 6 | 29,0 | | " | 6 | 19,7 | |
| " | 7 | 23,0 | | " | 7 | 8,7 | |
| " | 8 | 25,0 | 26,3 | " | 8 | 11,0 | 12,5 |
| II | 1 | 17,5 | | IV | 1 | 19,5 | |
| " | 2 | 20,7 | | " | 2 | 15,5 | |
| " | 3 | 12,8 | | " | 3 | 15,0 | |
| " | 4 | 13,5 | | " | 4 | 15,5 | |
| " | 5 | 20,0 | | " | 5 | 17,0 | |
| " | 6 | 18,5 | | " | 6 | 23,3 | |
| " | 7 | 18,3 | | " | 7 | 14,7 | |
| " | 8 | 15,5 | 17,1 | " | 8 | 16,0 | 17,1 |
| У сярэднім . . | | | 21,7 | | | | 14,8 |

Такім чынам, прыймаючы ўраджай няўгнойванае дзялянкі за 100, атрымаем для томас-шлакавага фону 380 і для супэрфосфатавага фону 556.

Перавага супэрфосфатавага фону, такім чынам, выявілася даволі выразна і ў першым укосе і ў атаве.

Азоцістыя ўгнаеньні на супэрфосфатава-калійным фоне мала павялічылі ўраджай атавы, менавіта, на 15—20 проц., ад ураджаю дзялянак з К+Р·, а ад угляк. аммонія павялічэньня зусім не атрымалася.

Па тамасшлакава-калійнаму фону прыбаўкі ад ужываньня азоцістых угнаеньняў і абсалютна і адносна атрымалася

больш, чым па супэрф. калійнаму фону, менавіта прыбаўкі раўняюцца 35—70 проц. ад ураджаю дзялянак з К+Р за выключэньнем дзялянак з серкавакіслым аммоніем.

Параўнальная ацэнка азоцістых угнаеньняў пры двух паўторах аказваецца немагчымай.

### Дасьледваньне відаў азоцістых угнаеньняў на канюшына-цімафеячнай мешаніне пасеву 1926 году на вуч. Е.

Гэты досьлед праводзіўся па суседзтву з вышэйапісаным, так што дзялянкі дадзенага досьледу зьяўляліся працягам дзялянак вышэйапісанага, але гаспадарчая гісторыя гэтага кавалку іншая.

Досьлед цікавы тым, што тутака даваўся вялікі лішак калі-фосфатных угнаеньняў і гэты лішак вельмі добра выраўняў прыродныя і выпадковыя разьліччы на вучастку, так што на атаве ўдалося констатаваць разьліччы ў дзеяньні ўжытых азоцістых угнаеньняў.

Гаспадарчая гісторыя вучастку наступная: дрэнаж і першае ворыва ў 1923 годзе, 1924 г.—авёс па ўгнаеньню 4 п. $P_2O_5$ і 6 п. $K_2O$ 1925 г.—авёс з падсевам траў па такім самым угнаеньні.

1926 г. у ліпені месяцы скошана зельле і поле пераворана, таму што травяны пасеў вышаў неўдачным, з-за таго што ў мінулым годзе авёс часткова палёг. Пасьля гэтага поле было ўгноена супэрфосфатам і калійнаю сольлю па такім-жа разьліку і засеяна цімафеяўкай.

У вясну 1927 г. была падсеяна чырвоная канюшына і паверхоўна ўнесена па ўсім полі К—Р угнаеньне па тым самым разьліку. Толькі пасьля гэтых опэрацыяў была выдзелена з краю поля па суседзтву з цімафеяўкай 1925 г. доўгая палоска шырынёю ў 10 м. і разьбіта на дзялянкі шырынёй па 4 м. так што кожная дзялянка вышла па 40 кв. мэтраў.

Пасьля разьбіўкі дзялянак на іх былі яшчэ раз дадзены фонавыя ўгнаеньні: 1) 4 п. $P_2O_5$—у форме супэрфосфат—5 п. $K_2O$ і 2) 4 п. $P_2O_5$ ў форме томасшлаку—5 п. $K_2O$.

Першы ўкос быў прыбран без падліку, пры чым ураджай павятрова-сухога сена быў каля 300 п. з 1 дзесяціны.

Пасьля ўборкі першага ўкосу былі дадзены дасьледваемыя азоцістыя ўгнаеньні. Атава падлічвалася I/VIII.

На нулявых дзялянках, г. зн. на дзялянках якія не атрымалі фонавых угнаеньняў сярэдні ўраджай быў 228,8 п. павятрова-сухога сена на 1 дзесяціну; фон супэрфосфату+калі даў у сярэднім 252 п. і па фону томасшлаку+калі атрымалі 257 п., такім чынам тутака розьніца паміж фонамі згладзілася. Уплыў азоцістых угнаеньняў, дзякуючы апрацоўцы вучасткаў у мінулым годзе, выявіўся слаба, як гэта

відаць з наступнае табліцы, атрыманай ад суміраваньня вынікаў ураджаю па абодвых фонах:

*Табліца 12.*

| Віды угнаеньняў | Ураджай павятрова-сухога сена ў пудох з 1 дзесяціны. 1 паўт. | 2 паўт. | 3 паўт. | 4 паўт. | Сярэдняе |
|---|---|---|---|---|---|
| $Na\ NO_3$ . . . . . | 278,1 | 278,1 | 287,5 | 271,7 | 276,3 |
| $(NH_4)_2\ SO_4$ . . . . | 268.1 | 264 3 | 264,3 | 264,3 | 265.2 |
| $NH_4\ HCO_3$ . . . . | 285,0 | 195,6 | 256,2 | 257,5 | 248,5 |
| $Ca\ CN_2$ . . . . . | 245,6 | 225,0 | 203,7 | 197,87 | 217,9 |
| Бяз N . . . . . | 268,7 | 225,0 | 285,0 | 282,5 | 265,2 |

Глеба ў апісаных умовах, відаць, была да таго багатая ўспрыймальным азотам, што салетра аказала нязначны ўплыў, сульфат аммонія ніякага ўплыву, а ўглякіслы аммоні і ціанамід нават выклікалі зьмяншэньне ўраджаю. З гаспадарчага пасеву, распаложанага побач з дасьледчымі дзялянкамі сабрана два ўкосы ў сярэднім 600 п. павятрова сухога сена з аднае дзесяціны, што таксама паказвае на поўную забясьпечанасьць глебы азотам.

**Дасьледваньне дзеяньня азоцістага ўгнаеньня на фінляндзкую травяную мешаніну, пасеяную ў 1927 годзе.**

Досьлед рабіўся на вучастку № 14, асушаным адчыненымі канавамі на адлегласьці 55 мэтраў у 1914 годзе і пераараным упяршыню ў 1915 годзе. У 1925 годзе на гэтым вучастку дадаткова былі закладзены паралельна асушыцельным канавам дзьве дрэны „па Бутцу“: такім чынам у сучасны момант адлегласьць паміж асушыцелямі на гэтым вучастку 18 м.; глыбіня канаў і дрэнаў 1 м.; залежу торпу 1,0—1,5 м. у ворыўным гарызонту торп даволі добра разлажыўся.

Гаспадарчая гісторыя вучастку наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1916—21 | г.г. | штучны луг — | угнояны 4 п: $P_2O_5$ і 6 п. $K_2O$ штогодна апрача 1921 г. |
| 1922 | „ | авёс | па ўгнаеньні 4 п: $P_2O_5$ і 6 п. $K_2O$ |
| 1923 | „ | капуста | „ „ „ „ „ „ |
| 1924 | „ | авёс | „ „ „ „ „ „ |
| 1925 | „ | капуста | „ „ „ „ „ „ |
| 1926 | „ | бульба | „ „ „ „ „ „ |
| 1927 | „ | фінляндзкая травяная мешаніна | „ „ „ |

Перадпасеўная апрацоўка: восеннае ворыва, дыскаваньне і апрацоўка зіг-загам у першай палавіне траўня.

20 траўня былі дадзены фонавыя К і Р угнаеньні, пры чым давалася: $K_2O$—5 п. на 1 дзес. у форме 30 проц. кал. солі і $P_2O_5$ 4 п. на 1 дзес. у форме супэрфосфату і томасавага-шлаку.

24 траўня пасеяна травяная мешаніна, якая складалася з

| | | |
|---|---|---|
| Цімафеяўкі | . . | 15 х. |
| Яжы зборнае | . . | 15 „ |
| Аўсяніцы | . . . | 15 „ |
| Канюшыны чырвонае | . | 10 „ |
| „ швэдзкае | . | 10 „ |
| Усяго | . . | 65 х. |

Мешаніна была прыкатана цяжкім катком. Пасьля прыйшлося два разы скошваць зельле, якое павырастала на даследчых дзялянках, менавіта, 8-га і 18-га ліпеня. 21-га ліпеня былі дадзены азоцістыя ўгнаеньні з разьліку 3 п. N на 1 дзесяціну.

Падлік быў зроблены 6-га кастрычніка. Спосаб падліку: зрэзвалася сярпом трава на 4 парцэлях па 0,25 мэтру з кожнае дзялянкі і зараз-жа важылася зялёная маса. У табліцы прыведзены сярэднія арытмэтычныя з кожнае чацьвёркі. Высушваньнем пробаў вызначан проц. усушкі—80.

Няўгнойваныя дзялянкі, распаложаныя ў першых дзьвух сэрыях з супэрфосфатам далі 208,7 п., а ў дзьвух апошніх сэрыях з томас-шлакам 292,5 п., дзеля гэтага тут немагчыма рабіць параўнальную ацэнку двух фонаў супэрфосфатавага і томасшлакавага, а прыдзецца суміраваць аднаназоўныя дзялянкі абодвых фонаў.

Тады атрымаем наступную табліцу:

*Табліца 13.*

| Угнаеньні | Сярэдні ўраджай у п. на 1 дзесяц. | Адносны ўраджай |
|---|---|---|
| O . . . . . | 250 | 100 |
| K+P . . . . . | 310 | 120 |
| K+P+Na $No_3$ . . . | 450 | 180 |
| „ „ +$NH_4$ $HCO_3$ . . | 446 | 178 |
| „ „ +Ca $CN_2$ . . | 373 | 149 |
| „ „ +$(NH_4)_2$ $SO_4$ . . | 351 | 140 |

Такім чынам, ужываньне салетры пад маладыя травы ў год іхняга пасеву робіць станоўчы ўплыў нават на такім вучастку старое культуры як № 14. З надворнага выгляду маладыя травы, угнояныя азоцістымі тукамі, адрозьніваліся цёмным колерам, гушчынёю і меншаю прысутнасьцю зельля, чым травы без N. Асабліва спрыяючае дзеяньне зрабілі салетра і вуглякіслы аммоні.

*Табліца 14.*

## Зборная табліца вучоту ўраджаю бульбы

Сэрыя Б (розныя віды калійных угнаеньняў на фоне тамас=шлаку + чылійская салетра і аднаго тамас-шлаку).

| №№ паўтар. і дзялянак | Назва ўгнаеньняў | Плошча вучотнай дзялянкі | Ураджай на вучотн. дзялянцы ў клгр клубняў | | | Ураджай клубняў на 1 гк у клгр | Ураджай у пуд. на 1 дзесяціну | Сярэдняе з 2-х паўтарэньняў у пудах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Буйн. | Дробных | Усяго | | | |
| 1\|1 | $NaNO_3$ + томас-шлак + Kcl . | 57,0 | 149,8 | 17,8 | 167,6 | 29386 | 1979 | 1541 |
| 2\|8 | „ . | 50,0 | 73,8 | 9,4 | 82,4 | 16580 | 1106 | |
| 1\|2 | $NaNO_3$ + томас-шл. + $K_2So_4$ . | 54,0 | 100,7 | 7,3 | 108,0 | 20000 | 1333 | 1172 |
| 2\|7 | „ . | 50,0 | 60,0 | 7,0 | 67,0 | 15187 | 1011 | |
| 1\|3 | Бяз угнаеньняў . . . | 55,4 | 63,4 | 16,2 | 79,6 | 14370 | 958 | 816 |
| 2\|6 | „ . | 55,8 | 48,0 | 8,5 | 56,5 | 10125 | 675 | |
| 1\|4 | $NaNO_3$ + тамас-шл. + Сільв. | 57,2 | 90,0 | 8,2 | 98,2 | 17168 | 1145 | 1136 |
| 2\|11 | „ . | 56,8 | 88,0 | 8,0 | 96,0 | 16901 | 1127 | |
| 1\|5 | $NaNO_3$ + Тамас-шлак . . | 55,4 | 57,8 | 13,8 | 71,6 | 12924 | 862 | 884 |
| 2\|10 | „ . | 53,3 | 56,7 | 18,5 | 75,2 | 13600 | 907 | |
| 1\|6 | Бяз угнаеньняў . . . | 57,2 | 52,8 | 11,9 | 70,1 | 12262 | 818 | 780 |
| 2\|9 | „ . | 54,2 | 42,3 | 18,0 | 60,3 | 11125 | 742 | |
| 1\|7 | Тамас-шлак + KCl . . . | 55,4 | 85,2 | 8,3 | 93,5 | 16778 | 1125 | 1137 |
| 2\|4 | „ . | 56,5 | 89,0 | 9,6 | 98,6 | 17451 | 1150 | |
| 1\|8 | Тамас-шлак + $K_2SO_4$ . . | 53,0 | 81,0 | 11,0 | 92,0 | 17359 | 1224 | 1487 |
| 2\|1 | „ . | 55,0 | 125,3 | 20,7 | 146,0 | 26258 | 1751 | |
| 1\|9 | Бяз угнаеньняў . . . | 55,4 | 43,7 | 14,0 | 57,7 | 10415 | 694 | 818 |
| 2\|3 | „ . | 57,0 | 62,2 | 18,0 | 80,6 | 14140 | 943 | |
| 1\|10 | Тамас-шлак Сільвін . . | 55,9 | 101,7 | 7,2 | 108,9 | 19481 | 1299 | 1220 |
| 2\|2 | „ . . | 55,2 | 86,0 | 8,5 | 94,5 | 17119 | 1141 | |
| 1\|11 | Тамас-шлак . . . . . | 56,1 | 54,0 | 16,4 | 70,4 | 12549 | 837 | 834 |
| 2\|5 | „ . | 56,5 | 54,0 | 16,4 | 70,4 | 12460 | 831 | |

## Зборная табліца вучоту ўраджаю бульбы.

Сэрыя Б (розныя віды каліиных угнаеньняў на фоне чылійскай салетры+ +фасфатная мука і адна фасфатная мука)

| № радоў | № дзялянак | Назва ўгнаеньняў | Плошча вучотной дз. | Ураджай клуб. па вуч. дзел. у кл. Буйных | Дробных | Усяго | Ураджай клубняў на 1 гк у клгр. | Ураджай у пудах на дзес. | Сярэдн. з 2-х паўтар. у пудах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 1 | $NaNO_3$+Фасфор. мука+KCL | 54,3 | 38,0 | 20,0 | 103,6 | 20000 | 1333 | 1124 |
| 4 | 11 | „ „ „ „ | 57,5 | 64,2 | 15,0 | 79,2 | 13739 | 916 | |
| 3 | 2 | $NaNO_3$+фасф. мука+$K^2SO_4$ | 52,8 | 70,0 | 14,5 | 34,5 | 15928 | 1002 | 1215 |
| 4 | 10 | „ „ „ „ | 53,4 | 80,0 | 23,7 | 109.7 | 20543 | 1309 | |
| 3 | 3 | Бяз угнаеньняў . . | 57,5 | 54,9 | 13,5 | 69,8 | 12130 | 809 | 840 |
| 4 | 8 | „ „ „ „ | 53,4 | 48,4 | 21,4 | 69,8 | 13060 | 871 | |
| 3 | 4 | $NaNO_3$+фасф. мука+Сільв. | 58,6 | 71,0 | 10,0 | 81,0 | 13993 | 933 | 876 |
| 4 | 9 | „ „ „ „ | 55,4 | 55,5 | 12,6 | 68,1 | 12292 | 819 | |
| 3 | 5 | $NaNO_3$+фасф. мука . . | 45,7 | 46,8 | 11,3 | 58,1 | 10700 | 713 | 825 |
| 4 | 7 | „ „ „ „ | 47,7 | 49,0 | 18 1 | 67,1 | 14067 | 938 | |
| 3 | 6 | Бяз угнаеньняў . . | 54,7 | 51,3 | 18,2 | 69,8 | 12790 | 853 | 825 |
| 4 | 4 | „ „ „ „ | 57,3 | 59,0 | 19,5 | 68,5 | 11954 | 797 | |
| 3 | 7 | Фасфар. мук.+KCl . . | 56,5 | 72,5 | 14,0 | 86,5 | 15309 | 1021 | 1021 |
| 4 | 2 | „ „ „ „ | 50,1 | 71,0 | 15,0 | 80,0 | 15329 | 1022 | |
| 3 | 8 | Фасфар. мук.+$K_2SO_4$ . | 52,5 | 38,0 | 14,0 | 52,0 | 10000 | 666 | 856 |
| 4 | 3 | „ „ „ „ | 58,4 | 63,7 | 22,9 | 91,6 | 15633 | 1046 | |
| 3 | 9 | Бяз угнаеньняў . . | 52,4 | 35,0 | 18.0 | 53 | 10114 | 674 | 780 |
| 4 | 1 | „ „ „ „ | 61,7 | 66,5 | 15,5 | 82,0 | 13290 | 886 | |
| 3 | 10 | Фасф. мук.—Сільв . . | 53,0 | 64,0 | 7,0 | 71,0 | 13396 | 893 | 1102 |
| 4 | 5 | „ „ „ „ | 53,5 | 88,0 | 17,3 | 105.3 | 19682 | 1311 | |
| 3 | 11 | Фасфарытн. мука . . | 54,0 | 43,0 | 17,2 | 44.2 | 10037 | 669 | 777 |
| 4 | 6 | „ „ „ | 53,4 | 57,0 | 14,0 | 61,0 | 13295 | 886 | |

## Зборная табліца вучоту ўраджаю бульбы

Сэрыя Б (розныя віды фосфарных угнаеньняў на фоне $(NH^4)_2$ $SO_4$+калійная соль і адна калійная соль).

| № раду | № дзялянкі | Назва ўгнаеньняў | Плошча вучотн. дзялян. у мэтр. | Урадж. клубняў з вуч. плошчы у клгр: Дробнай | Дробнай | Усяго | Ураджай на 1 гк у клгр | Ураджай на 1 дз. у пудах | Сярэдн. з 2-х паўтар. у пудах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | $(NH_4)_2SO_4$+кал. соль+супэр. | 55,1 | 57,0 | 13,0 | 70,0 | 12704 | 847 | 799 |
| 2 | 18 | " " " " | 56,8 | 51,3 | 12,9 | 64,2 | 11303 | 752 | |
| 1 | 2 | $(NH_4)_2SO_4$+кал. соль дв. суп. | 57,7 | 60,0 | 5,0 | 65,0 | 11265 | 751 | 795 |
| 2 | 17 | " " " " | 52,4 | 54,5 | 11,5 | 66,0 | 12595 | 839 | |
| 1 | 3 | $(NH_4)_2SO_4$+кал. соль+прэп. | 51,9 | 60,6 | 10,7 | 71,3 | 13738 | 916 | 763 |
| 2 | 16 | " " " " | 50,3 | 35,0 | 11,5 | 46,5 | 9153 | 610 | |
| 1 | 4 | Без угнаеньняў . . | 53,5 | 43,5 | 11,2 | 54,7 | 10138 | 679 | 672 |
| 2 | 15 | " " | 51,2 | 39,5 | 11,5 | 51,0 | 10000 | 666 | |
| 1 | 5 | $(NH_4)_2SO_4$+кал.соль+тамасш. | 54,9 | 64,5 | 14,0 | 78,5 | 14298 | 953 | 897 |
| 2 | 14 | " " " " | 44,2 | 49,3 | 6,5 | 55,8 | 12624 | 841 | |
| 1 | 6 | $NH_4)_2SO_4$+кал. соль каст. мука | 52,5 | 53,2 | 14,2 | 67,4 | 12849 | 857 | 786 |
| 2 | 13 | " " " " | 41,0 | 38,0 | 6,6 | 44,0 | 10721 | 715 | |
| 1 | 7 | $(NH_4)_2SO_4$+кал. соль фос. м. | 55,7 | 70,0 | 18,0 | 88,0 | 15797 | 1053 | 946 |
| 2 | 12 | " " " " | 47,2 | 55,4 | 4,0 | 59,4 | 12585 | 839 | |
| 1 | 3 | $(NH_4)_2SO_4$+калійная соль . | 56,3 | 52,8 | 17.5 | 70,3 | 12486 | 832 | 829 |
| 2 | 1 | " " " " | 54,7 | 55,7 | 12,0 | 67,7 | 12378 | 825 | |
| 1 | 9 | Бяз угнаеньняў . . . | 53,5 | 41,6 | 15,4 | 57,0 | 10654 | 710 | 746 |
| 2 | 10 | " " | 48,4 | 44,2 | 12,6 | 56,8 | 11735 | 782 | |
| 1 | 10 | Калійная соль супэрфасфат | 56.8 | 56,5 | 12,0 | 68,5 | 12803 | 853 | 785 |
| 2 | 9 | " " " | 48,2 | 52,0 | 10,6 | 62,6 | 10756 | 717 | |
| 1 | 11 | Калійная соль дв. супэрфасф. | 53,5 | 72,0 | 7.8 | 79,8 | 14650 | 977 | 935 |
| 2 | 6 | " " " | 58,8 | 64,6 | 14.3 | 78.9 | 13418 | 894 | |
| 1 | 12 | Калійная соль+прыцыпіт . | 44,7 | 47,0 | 3,5 | 50,5 | 11297 | 753 | 867 |
| 2 | 7 | " " " | 54,4 | 67.0 | 13,1 | 80,1 | 14724 | 982 | |
| 1 | 13 | Бяз угнаеньняў . . | 45.3 | 30,0 | 7,2 | 37,2 | 7654 | 510 | 634 |
| 2 | 6 | " " | 48.9 | 43,6 | 12,0 | 55,6 | 11370 | 758 | |
| 1 | 14 | Калійная соль тамасшляк . | 52,0 | 55,0 | 4,5 | 59,6 | 11338 | 756 | 877 |
| 2 | 5 | " " " | 52,2 | 64,0 | 14,2 | 78,2 | 14980 | 999 | |
| 1 | 15 | Калійная соль+кост. мука | 54,7 | 50,3 | 9,7 | 60,0 | 10345 | 689 | 745 |
| 2 | 4 | " " " " | 53,0 | 55,0 | 8.8 | 63,8 | 12038 | 802 | |
| 1 | 16 | Калійная соль фасфар. мука | 54,7 | 33,5 | 7,5 | 41,0 | 8039 | 536 | 827 |
| 2 | 3 | " " " " | 53,0 | 76,0 | 13,0 | 89,0 | 16792 | 1119 | |
| 1 | 17 | Калійная соль . . . | 47,7 | 49,0 | 10,8 | 59,8 | 10873 | 725 | 895 |
| 2 | 2 | " " | 59,3 | 85,8 | 9,0 | 94.8 | 15986 | 1066 | |
| 1 | 18 | Бяз угнаеньняў . . | 51,7 | 40,4 | 12,5 | 52,9 | 9396 | 626 | 835 |
| 2 | 1 | " " | 44,7 | 60,0 | 10,0 | 70,0 | 15666 | 1045 | |

## Зборная табліца вучоту ўраджаю бульбы.

Сэрыя Б. (Розныя віды фосфарных угнаеньняў на фоне $NaNO_3$+калійная соль).

| № раду / № дзялянкі | Назва ўгнаеньняў | Велічыня вучотнай плошчы | Ураджай клубняў з вучотнай дзелянкі ў клгр. | | | Ураджай на 1 гк у клгр | Ураджай на 1 дз. у пудах | Сярэдняе з 2-х паўтарэньняў у пудах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Буйных | Дробных | Усяго | | | |
| 3/1 | $NaNO_3$+Кал. соль + суп. | 52,6 | 72,0 | 13,0 | 85,0 | 16159 | 1071 | 1134 |
| 4/18 | " " " " | 51,7 | 79,0 | 12,3 | 91,3 | 17659 | 1197 | |
| 3/2 | $NaNO_3$+кал. соль+дв. суп. | 58,8 | 76,0 | 7,0 | 83,0 | 14116 | 941 | 1016 |
| 4/17 | " " " " | 55,3 | 84,0 | 6,5 | 90,5 | 16369 | 1091 | |
| 3/3 | $NaNO_3$+кал. соль+прыц. | 54,8 | 68,8 | 5,2 | 73,2 | 13175 | 878 | 912 |
| 4/16 | " " " " | 45,8 | 60,0 | 6,0 | 66,0 | 14192 | 946 | |
| 3/4 | $NaNO_3$+кал. соль+том. шл. | 47,7 | 55,2 | 6,1 | 61,3 | 12851 | 857 | 899 |
| 4/15 | " " " " | 54,2 | 66,0 | 10,5 | 76,5 | 14114 | 941 | |
| 3/5 | Бяз угнаеньняў . . . | 49,2 | 50,4 | 11,4 | 61,8 | 12561 | 837 | 813 |
| 4/14 | " " . . . | 43,3 | 40,5 | 10,8 | 51,3 | 11848 | 789 | |
| 3/6 | $NaNO_3$+кал. соль+каст. м. | 54,2 | 53,6 | 11,9 | 65,5 | 12085 | 806 | 881 |
| 4/13 | " " " " | 51,7 | 60,8 | 9,7 | 69,5 | 14359 | 957 | |
| 3/7 | $NaNO_3$+кал. соль+фасф. м. | 54,7 | 71,0 | 14,3 | 85,3 | 15596 | 1039 | 919 |
| 4/12 | " " " " | 43,0 | 47,6 | 4,0 | 51,6 | 12000 | 800 | |
| 3/8 | $NaNO_3$+калійная соль . | 56,5 | 79,5 | 19,0 | 98,5 | 17434 | 1162 | 1033 |
| 4/11 | " " " | 55,0 | 62,8 | 12,7 | 75,5 | 13737 | 915 | |
| 3/9 | Бяз угнаеньняў . . . | 47,5 | 36,7 | 17,2 | 53,9 | 11347 | 757 | 836 |
| 4/10 | " " . . . | 56,1 | 33,5 | 63,5 | 77,0 | 13743 | 916 | |
| 3/10 | Калійная соль+супэрф. | 57,7 | 74,5 | 15,5 | 90,0 | 15598 | 1039 | 1045 |
| 4/9 | " " " | 57,7 | 76,8 | 14,6 | 91,4 | 15788 | 1052 | |
| 3/11 | Кал. соль+дв. супэр. . | 51,9 | 68,0 | 13,7 | 81,7 | 15742 | 1049 | 1069 |
| 4/8 | " " " " | 60,1 | 84,5 | 13,7 | 98,2 | 16339 | 1039 | |
| 3/12 | Бяз угнаеньняў . . . | 48,0 | 41,5 | 7,5 | 49,0 | 10208 | 681 | 819 |
| 4/7 | " " . . . | 53,6 | 58,5 | 18,5 | 77,0 | 14366 | 958 | |
| 3/13 | Калійная соль+прыцып. | 54,4 | 50,0 | 8,0 | 58,0 | 10661 | 710 | 853 |
| 4/6 | " " " | 54,0 | 68,5 | 12,2 | 80,7 | 14944 | 996 | |
| 3/14 | Кал. соль+том. шлак . | 45,4 | 73,5 | 12,5 | 86,0 | 18987 | 1266 | 1113 |
| 4/5 | " " " " | 51,7 | 61,2 | 14,1 | 75,3 | 14565 | 971 | |
| 3/15 | Кал. соль+касьц. мука . | 52,1 | 60,0 | 11,4 | 71,4 | 13896 | 933 | 893 |
| 4/4 | " " " " | 54,5 | 62,2 | 8,6 | 70,8 | 12804 | 354 | |
| 3/16 | Бяз угнаеньняў . . . | 53,1 | 49,4 | 16,2 | 65,6 | 12354 | 882 | 937 |
| 4/3 | " " . . . | 52,4 | 57,8 | 19,2 | 70,0 | 14885 | 992 | |
| 3/17 | Кал. соль+фасф. мука . | 56,5 | 76,0 | 8,4 | 84,4 | 14938 | 996 | 981 |
| 4/2 | " " " " | 58,4 | 76,4 | 8,3 | 84,7 | 14503 | 967 | |
| 3/18 | Калійная соль . . . | 52,8 | 44,2 | 12,1 | 56,3 | 10668 | 711 | 889 |
| 4/1 | " " . . . | 58,4 | 80,0 | 13,5 | 93,5 | 16010 | 1067 | |

